
LONDON – ARC-7 HQ
ЛОНДАНСКАЯ ШТАБ-КВАТЭРА АРК-7
ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY:
Сяргей Лісічонак
Гэта **яна**, сэр... інакш быць ня можа.


Я правяла перакрыжаваную праверку ўваходных паведамленняў з нашымі базамі даных. **Ёсць рэзультат**.
А нам якая да гэтага справа?
Два дні таму ў Белградзе былі забіты **генерал Сціпанаў** з жонкай.


Таму што яго жонка **павінна** была сядзець у астрозе...
...а генерал быў адной з **мэт** леташніх заданняў Х-14.


Чорт.


Сапраўды.
Верагоднасць, што гэта **ня** злучана з нашай міс Тэмплтан, вельмі малая.


Што яна **робіць**? Асочвае **дзеянні** Келера?
Гэта **мая** гіпотэза.
Калі яна выцягнула жонку з астрога, то толькі дзеля інфармацыі.


**Якой** інфармацыі? І навошта забіваць генерала?
Яна павінна разумець, што гэта прыцягне лішнюю ўвагу.


Яна ўжо даўно не аператыўнік. Магчыма, гэта проста **памылка**.
Што ж, будзем спадзявацца, што так і працягнецца.
Добрая праца, **Ларс**...


...Цяпер у мяне ёсць месца, адкуль я магу **пачаць**.

# BEFORE THE LIVING END

## PART FOUR

MONACO

МАНАКА

Дзвюх думак быць ня можа: Белград стаў катастрофай.

З такім жа поспехам я магла **радзіраваць** сваё месцазнаходжанне.

І горш за ўсё, Марына сыграла на маёй **спагадзе**...

А раней за мной такога не назіралася.

Я **размякнула**.

Прынамсі, яна была чалавекам **слова**...

Яе **апошнія** словы далі мне новую зачэпку...

...На прыёме... Ён заўважыў знаёмага...

...**Рускі** акцэнт... **сівыя** валасы...

...Потым я ня бачыла вашага **сябра**... два дні...


Таму што я **даклад-на** ведала, каго яна апісала...


**Раман**... Былы агент КДБ, які стаў у канцы 50-х **нелегалам**.


Начальства вырашыла зрабіць **яго** ахвярным каз-лом за правал аперацыі...
...Аднак Раман вырашыў, што ён **не** жадае правесці астатак дзён у **ГУЛАГе**.
На доўгія гады, ён сышоў у падполле, падпрацоўваючы ў якасці кансультанта ў при-ватным сектары.
З тых, што сёння крадуць **формулу зубной пасты**...
...А назаўтра дапама-гаюць **весці вайну** паўднёваамерыканскім і афрыканскім краінам.


HO
OH
P
O
HO
OH


А паколькі я нікалі **нічога** не забываюся, то я ведала, дзе ён будзе... Прынамсі **гэтай** ноччу.


Таму што ён ужо даўно не прапускае **Карнавал дурняў**.


А чаму, **увогуле**, не? Гэта ж увасобленая казка.


Я лездь магла паверыць, што Бёрк не пажадаў застацца...
Проста мне трэба вяртацца да працы...
Адзін мясцовы знаёмы жадае, каб я перадаў **пасылку**.
Усё добра... Ты не напрошваўся ўблытвацца ў мае непрыемнасці.


Я ж казаў, не вадзіць яе ў гэтую праклятую гасцініцу.
Ведаю.


За мной даўжок, але тое, як ты вядзеш справы...
Хм... я вельмі стары для турмы. Нават дзеля цябе.


Бёрк, ты не стары...
Не. Я не адчуваю сябе старым, але ведаю, што гэта так...


Божа... я нават не заўважыў, як хутка прайшоў час...
Заплюшчваю вочы, і я па-ранейшаму той дурны хлапчук, які змагаўся супраць нацыстаў...


Але нават ён ведаў, калі трэба сыходзіць з лініі агню.


Мы развіталіся, і ён накіраваўся забіраць тое, пра што мне і ведаць ня трэба...


А я засталася адна, разважаючы пра мой свет, вытканы з праблем...
...І ўсіх яго зламаных салдатаў...


Такія людзі, як Бёрк вельмі траўміраваныя, каб рабіць штосьці яшчэ...
Ці калі мой стары афіцэр-інструктар, лэдзі Палін...
Якая прапіла свой талент, толькі дзеля таго, каб спыніць свае кашмары...


Усе мы аддаем жыццё «гульне», як кажуць нашы гульцы...
Маленькія гордыя пешкі... Авечкі на пагібель...




Ідэальнае месца набыць інфармацыю... Ці для сустрэчы двайнога агента з кіраўніком...

А гэта і ёсць поўная **супрацьлегласць** сапраўднага жыцця...



















…Агледзецца.
І вось хто вызначаецца…


CELEBRITY
ЗНАКАМІТАСЦЬ
Такіх заўсёды бачна.


Целаахоўнікі выдаюць яе.
ROYALTY
ЧЛЕН КНЯЖАЦКАЙ СЯМ'І


А вось гэтая тройца турбуе мяне…


ASSASSIN
ЗАБОЙЦА


ASSASSIN
ЗАБОЙЦА


ASSASSIN
ЗАБОЙЦА


На секунду, убачыўшы, як яны глядзяць на Рамана, я палічыла, што гэта, магчыма, яго людзі…


…Аднак **акцэнт** іх выдаў.
Вой, **прабачце**!


Не турбуйце-ся.


**Рускі.**


Раман добра паклапаціўся, каб заставацца **па-за мяжой дасягальнасці** старых гаспадароў…
Сябры мае, баюся, сёння дастаткова…


А зараз час для віна, жанчын і песень.


…Значыць, калі за ім прыйшлі іх **трэне-раваныя забойцы**, хтосьці прадаў яго.


I мне цікава, ці ня звязана гэта з тым, што **хтосьці** даведаўся пра яго **таемную сустрэчу** з X-14?


Ці зразумелі яны, што я тут **раблю**?


Чаму была ў Белградзе?
STAIRS




Шыкоўна...


Так ці інакш, іншага выбару ў мяне не было...


Хоць Раман і **зграбны**.. У свой час ён быў адным з найлепшых агентаў КДБ.
Тры разам, так?


Але гэтыя тры **найлепшыя** сёння...
Баязліўцы.


...а ён 64-гадовы стары.
WHAM
Вухт!


KNNCH
А-А!..


Спадзяюся, вы не чакаеце, што я буду прасіць літасці...


Мы прыйшлі не забіваць цябе, стары...
А забраць **дадому**.


Ну, гэта... Гэй...
А яна з **вамі**?


Што...
KRAAK


WHAAM
Ху-ук!


BAAM




Якога...




...лясуна?!


Добра, вось што вам трэба ведаць...
GAAAHHH--!


... Усялякая сутычка, якая працягаецца больш за пяць секунд, – гэта чорт ведае што.
Га-а-ах...


Я лічу за лепшае разабрацца за секунду...
Фу-у!


Толькі тады я ведаю, што гэта сутычка.


Мне шанцавала некалькі апошніх тыдняў... Але гэты хлопец...


Ён безумоўна быў напагатове.


Што прывяло да "чорт ведае чаго"... А менавіта да блізкага бою.
Ун-нх!..


Тут няма месца для вытанчанасці. Мастацтва.


Толькі для бязвыхаднасці.


Брыдоты.


АААААА!...


...Фу-у-ух...




У пекла цябе.


!!!




Ну… і хто ты, трасца табе ў бок, такая?
І чаму я не павінен **забіць** цябе?


Я толькі што **выратавала** табе жыццё…
Што? **Гэтыя** дурні? Усё было пад кантролем.


Пачакай. Я цябе **ведаю**, так?
Так.
Мы **спалі**?
Нават не думай пра гэта.


А, вось яно… **Каір**… У 52-ім?
Што ж, у такім выпадку я сапраўды **павінен** цябе забіць.


Ага, але **ня зробіш** гэта-га…
А зараз нам трэба **сыходзіць**, пакуль **паліцыя** не з'явілася.


Дваццаць гадоў таму мы б абодва стрэлілі… А зараз успаміналі пра тыя дні, як старыя сябры…
Значыць, ты ведала пра маю **жарсць** да рудзенькіх?


Да рудзенькіх, выпіўкі… улады… У цябе было шмат **слабасцяў**, якія можна было выкарыстаць…
О, не называй гэта слабасцямі… Асабліва гарэлку.
Гэта хутчэй лякарства.


Ён падабаўся мне, тут нічога ня зробіш. Ён спадабаўся мне яшчэ ў **Каіры**.
Хоць я і **апаіла** яго, каб скрасці партфель.


Ты вельмі ўкляпаўся з-за гэтага?
Не. Зваліў усё на **кантакт** у Егіпце, і ён… знік…
Ён увогуле быў **поскудзю**… Дзяцей гвалтаваў…


Па ім ніхто ня плакаў.


Значыць, лічыш, што хтосьці з **тваіх** выдаў мяне?
**Магчыма**. КДБ не настолькі моцна ненавідзіць цябе, каб выдаткоўваць грошы на пошукі.
Мяркую, трэба змяніць звычкі.


Дык што **здарылася** ў вас з Джэферсанам Келерам у Югаславіі?
Я ўжо сустракаўся з ім аднойчы. Ён тады дзейнічаў пад легендай **Поўпа**...


Жадаў пераканацца, што я ня выкрыю яго прыкрыццё.
Я сказаў, што ня буду, але за ім **даўжок**.


Але раптам ён запытаўся пра **штосьці іншае**, з часоў маёй працы ў КДБ.


Ён правяраў адну **кампанію**, а апошні агент, які прыкрываў яе, **быў забіты** ў 50-я...


Сказаў, што гэты **чалавек** быў **кратом** рускіх... Як Філбі...
Ён жадаў даведацца... Пачакай, хто гэта...


Я адказаў, што гэты чалавек... под **кодавым імем "Перасмешнік"**... ніколі ня быў двайным агентам...


**КДБ** ня меў з ім **ніякіх** **спраў**...


Ён працягваў гаварыць, але я яго ўжо ня чула...
Акіян роў, але і яго я таксама ня чула...
У сэнсе, мы, безумоўна, былі б ўдзячны, калі б ён апынуўся ў нашых радах...


Усё, што я чула – гэта імя... **Перасмешнік**...
Мужчына, за якога я выйшла замуж.
ПРАЦЯГ БУДЗЕ